Прачытай сам і перадай другому.

# Народная Воля

№ 81 (4539)

13 кастрычніка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

АКАЯННЫЯ ДНІ

# Дыялог, які нечакана пачаўся ў турме?




У мінулую суботу раптам стала вядома, што Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з шэрагам зняволеных асоб, якія знаходзяцца ў СІЗА КДБ.

На сустрэчы прысутнічалі экс-старшыня праўлення "Белгазпрамбанка", экс-прэтэндэнт на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **Віктар Бабарыка**, яго сын, заснавальнік краўдфандынгавай платформы "Вулей" **Эдуард**, юрыст, член Каардынацыйнай рады **Лілія Уласава**, бізнесмен **Юрый Васкрасенскі**, паліттэхнолаг **Віталь Шкляраў**, выконваючы абавязкі старшыні праўлення "Белгазпрамбанка" **Кірыл Бадзей**, дырэктар IT-кампаніі PandaDoc **Дзмітрый Рабцэвіч**, юрысты **Максім Знак** і **Ілля Салей**, а таксама блогер **Сяргей Ціханоўскі**, якія ўжо некалькі месяцаў знаходзіцца пад арыштам.

Чатыры з паловай гадзіны доўжылася размова. Якая, не выключана, мела і дыскусійны характар. Можна сказаць, у такой вось незвычайнай абстаноўцы распачаўся дыялог паміж уладай і прыхільнікамі дэмакратычных перамен. Шкада, што падрабязнасці сустрэчы ўдзельнікі агульным рашэннем пакінулі канфідэнцыяльнымі.

УЧОРА



На вуліцы выходзіць новая пратэстная сіла – пенсіянеры, якіх у краіне налічваецца больш за два з паловай мільёны

Ствараецца ўражанне: улады, замест таго каб як мага хутчэй назваць дакладную дату новых прэзідэнцкіх выбараў, чакаюць, калі свой рашучы пратэст выкажа рабочы клас.

АФІЦЫЙНА

# У нядзелю сілавікі затрымалі 713 чалавек

*Такую лічбу агучыла прэс-сакратарка МУС **Вольга Чамаданава** пасля акцыі пратэсту 11 кастрычніка.*

Тым часам, Беларуская асацыяцыя журналістаў паведамляе, што ў гэты ж дзень ў Беларусі былі затрыманыя не менш за 40 журналістаў. Сілавікі затрымлівалі прадстаўнікоў СМІ яшчэ да таго, як людзі сабраліся на вуліцах.

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

# Чаму ў нядзелю на вуліцах Мінска зноў лілася кроў?

*Вось што пра гэта думае палітолаг **Валерый Карбалевіч**.*

– У нядзелю дзеянні супрацоўнікаў МУС былі асабліва брутальныя, – *заўважыў ён у сваім тэлеграм-канале*. – Акрамя актыўнага ўжывання вадамётаў, светлашумавых гранат амапаўцы жорстка збівалі людзей дубінкамі, не шкадуючы нават ляжачых. Зноў з'явіліся параненыя. Узровень жорсткасці, дэманструемай сілавікамі, нагадваў першыя трое сутак пасля выбараў.

Гэта зусім не выпадкова. І тут ёсць наўпроставая сувязь з суботнім візітам Лукашэнкі ў СІЗА КДБ. Справа ў тым, што гэты візіт быў ацэнены незалежнымі мэдыямі і экспертамі як праява слабасці, як параза. Маўляў, пад ціскам масавых пратэстаў быў вымушаны пайсці на саступкі народу.

Тут справа не толькі ў тым, што Лукашэнка панічна баіцца выглядаць слабым. Гэта разбурае ягоны вобраз крутога мужыка. Насамрэч візіт у турму стаў дрэнным сігналам для ягоных прыхільнікаў, наменклатуры. Маўляў, "бацька" садзьмуўся.

Каб нейтралізаваць такое ўражанне, кампенсаваць суботнішнюю саступку, у нядзелю Лукашэнка паспрабаваў прадэманстраваць сілу адзіным зразумелым яму спосабам – лютай жорсткасцю.











ДЗІКУНСТВА



# Зверскае збіццё брата Героя Беларусі Дар'і Домрачавай архітэктара Мікіты Домрачава

Пазаўчора падчас жорсткіх разгонаў дэманстрантаў быў збіты і затрыманы брат Дар'і Домрачавай Мікіта. Цяпер ён ужо дома. Мікіта распавёў усе падрабязнасці гэтага інцыдэнту, а таксама пацвердзіў, што яго затрыманне трапіла на відэа.

– Учора я ехаў на ровары па веладарожцы па набярэжнай у раёне Зыбіцкай да мамы. Даехаўшы да моста, убачыў, як на мяне з крыкамі бягуць людзі ў аліўкавай форме. Я спалохаўся, павярнуў у іншы бок, але адтуль, з-за рога будынка, выбег іншы натоўп сілавікоў, ужо ў чорным.

Яны проста паваліліі мяне з ровара і, нічога не тлумачачы, пачалі біць. У мяне пасыпаліся іскры з вачэй, цякла па галаве кроў. Я спалохаўся за свой ровар – ён у мяне ўжо 10 гадоў і вельмі мне дарагі, я спрабаваў вырвацца, каб зберагчы яго.

Але мяне закінулі ў мікрааўтобус. Там мне пагражалі, ткнулі дубінкай. Ад удараў і крыві на твары я нічога не бачыў. У нейкі момант я думаў, што аслеп, і прасіў выклікаць хуткую. Аднак мне казалі, што выклікаць яе не будуць, доктар будзе ў РУУС. Акрамя таго, мне перацiснулі рукі кайданкамі, яны анямелі, але на мае просьбы аслабіць сілавікі толькі смяяліся і абражалі мяне. Яны рыліся ў маіх асабістых рэчах, кашальку, але ніякай сімволікі там не было.

Праз нейкі час мяне перакінулі ў іншую машыну і яшчэ каля гадзіны вазілі па горадзе, але далі бінт, каб спыніць кроў.

У РУУС мяне прывезлі з групай іншых затрыманых. На мне не было абутку, ён згубіўся пры затрыманні. Там з дакументаў перапісалі мае звесткі, сфатаграфавалі мяне, паказанні ніхто не браў.

Праз нейкі час прыехала хуткая. У гэты ж момант мне прынеслі гатовы пратакол з усімі паказаннямі супрацоўнікаў, але прачытаць не далі, абгрунтаваўшы тым, што там асабістыя звесткі сілавікоў.

У пратаколе было пазначана, што я ўдзельнічаў у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Я сябе вельмі дрэнна адчуваў, моцна балела галава, таму я не стаў супрацiўляцца і падпісаў яго. Суд павінен адбыцца ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска, дату я не ведаю.

Хуткая забрала мяне ў 3-ю бальніцу, там пасля некалькіх гадзін сядзення ў агульнай чарзе мяне паклалі ў палату. З раніцы я падпісаў адмову ад шпіталізацыі і з'ехаў дадому.

**– Вы казалі сілавікам аб тым, хто вы? Хто ваша сястра?**

– Не.

**– А што з роварам?**

– Я прасіў жонку пашукаць яго там, дзе мяне затрымалі, але яго ўжо не было. Я хвалююся за яго лёс.

**– З Дашай ўжо размаўлялі?**

– Пакуль не, але яна ведае аб тым, што здарылася, яна размаўляла з мамай.

СТАЛА ИЗВЕСТНО

## Лукашенко попал под санкции

*Вчера на заседании Совета министров иностранных дел ЕС было впервые публично оглашено, что Александр Лукашенко будет внесен в санкционные списки.*

Санкционные списки по Беларуси будут расширяться за счет внесения новых имен высокопоставленных чиновников и лиц, имеющих отношение к организации репрессий против мирного населения, предприятий и компаний, аффилированных с Лукашенко и его ближним кругом.

Решение об этом было принято единогласным голосованием представителей всех 27 стран Евросоюза.

СТОЛИЦА

## Сегодня в домах начнут включать отопление

*Включение систем отопления будет производиться в несколько этапов.*

*«К концу этой недели ожидается резкое похолодание, к этому времени мы должны запустить всю систему отопления»,* – сказал председатель Мингорисполкома **Владимир Кухарев.**

Как сообщает официальный телеграм-канал Мингорисполкома, Кухарев подчеркнул, что главам администраций и городским службам необходимо взять на контроль запуск и возможное развоздушивание отопительных систем. Если есть необходимость, организовать круглосуточную работу бригад, усилить на этот период режим работы городской аварийной службы: *«За 10 дней все вопросы, связанные с запуском отопления, должны быть улажены».*

ОТКРОВЕННО

## Алеся ВОСКРЕСЕНСКАЯ: «Муж требовал освободить Статкевича и Северинца, но это не вошло в эфир»

*В воскресенье вечером стало известно, что изменена мера пресечения политологу Юрию Воскресенскому, который провел в СИЗО КГБ около двух месяцев. Он сидел по правую руку от А.Лукашенко во время его так называемого "круглого стола" в СИЗО КГБ.*

*Сам Воскресенский пока не может общаться с журналистами. Хотя стоит отметить, что, находясь под арестом, он дал не одно интервью государственным телеканалам.*

*"Народная Воля" задала несколько вопросов его супруге.*



**– Алеся, поздравляю с хорошими новостями: муж наконец-то дома…**

– Спасибо, я думала, что не доживу до этого момента. Эти два месяца были для меня очень сложными…

**– Расскажите, как Юрий вернулся домой? Предупредил хоть?**

– Нет, просто приехал на какой-то машине, открыл дверь своим ключом и зашел.

**– Ему вернули только ключ от квартиры или остальные изъятые вещи тоже?**

– Нет, только ключ. А другие вещи ему вернуть и не могут. Его ведь не насовсем отпустили, а лишь изменили меру пресечения – он переведен под домашний арест.

Я вчера мужа когда увидела, заплакала. И дочка тоже плакала. И мама Юры, ей 85 лет, она как раз была с нами.

**– А сын?**

– Он же не в Минске. В Москве учится.

**– Что муж рассказывал? Вообще, в каком состоянии он вернулся домой? Судя по комментарию, который он дал БТ после встречи с Лукашенко, вид у него весьма неплохой для арестанта…**

– Он в тяжелом по здоровью состоянии – это я вам как жена говорю. У мужа гипертензия II степени, аневризма головного мозга, серьезные офтальмологические заболевания. У него стерты межпозвоночные диски, дома у него периодически случались такие состояния, когда отнимались ноги. Вчера купила ему лекарства – будем проводить медицинскую терапию, приводить в чувство.

Рассказывать он ничего не может пока. Когда вернулся, поел и почти сразу лег спать. А утром я поехала на работу, так что мы мало о чем успели поговорить.

**– По телефону он теперь разговаривать может, в соцсетях общаться?**

– Нет, к сожалению, коммуницировать не может – об этом говорится в тех документах, которые он получил на руки.

**– На прогулки выходить?**

– Тоже нет.

**– Рассказывал ли он что-то по поводу своих интервью, данных государственным телеканалам из СИЗО КГБ?**

– Нет. Но спрашивал: "Ты видела?" Судя по тому, что он писал мне в письмах, далеко не все, что он говорил, попало в эфир.

**– По его словам, был ли в этих интервью какой-то тайный смысл? Как он вообще согласился и почему вдруг резко стал поддерживать политику Лукашенко?**

– Сказал, что от такого предложения в условиях содержания под стражей отказаться невозможно.

**– Вы наверняка видели в соцсетях реакцию на слова вашего мужа БТ о том, что ему поручено *"приступить к подготовке альтернативных предложений по изменению Конституции, а также подготовить свои мысли по поводу дальнейших шагов со стороны власти по освобождению ряда лиц, которые не так общественно опасны для нашей страны, как казались на первом этапе"*. Воскресенского называют предателем…**

– Я с удивлением реагирую на подобные высказывания, если честно. В интервью Марату Маркову мой муж сказал: *"Я выступаю за то, чтобы освободить политзаключенных Николая Статкевича, Павла Северинца и других"*. К сожалению, это не попало в эфир. А когда его выпустили под домашний арест, не сняв предъявленных обвинений, его стали называть предателем, говорить, что он «переобулся». Мне кажется, это не совсем правильно.

Но для меня сейчас главное, что муж рядом, а не в тюрьме. А остальные детали – они станут известны позже. Тогда и можно будет делать выводы.

**– Про встречу с Лукашенко он рассказывал?**

– Я уже сказала, что у нас было мало времени на общение. Я почти весь вечер проплакала. Муж говорил: «Успокойся, все будет хорошо…» Я даже не заглянула в его сумку, с которой он приехал из СИЗО…

**– А чисто психологически как он? Сломлен?**

– Мне кажется, ему сейчас намного легче. Он вернулся из камеры в свой дом, спит в своей постели. Сейчас он ценит все мелочи, которым раньше, может, не придавал большого значения. Он счастлив, что уже не в камере.

Ну а те, кто называет его предателем… Я посмотрела бы, что они сказали бы, посидев два месяца в камере, где были созданы очень тяжелые условия…

Я не хочу больше терять своего мужа. Хочу, чтобы он был рядом, с семьей…

### Профиль

*Юрий Воскресенский – бизнесмен, директор нескольких компаний, одна из которых является резидентом ПВТ. По образованию политолог, был депутатом Минского городского Совета. Во время этой избирательной кампании вошел в инициативную группу Виктора Бабарико. 12 августа был задержан по обвинению в организации массовых беспорядков и с тех пор находился в следственном изоляторе КГБ.*

**Марина КОКТЫШ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Адвакат Шклярава: Ціханоўскі быў на сустрэчы Лукашэнкі з палітвязнямі

Суботняя сустрэча Аляксандра Лукашэнкі ў СІЗА КДБ з палітвязнямі, у тым ліку з Віктарам і Эдуардам Бабарыка, Ліліяй Уласавай, паліттэхнолагам Віталём Шклярвым, дагэтуль у цэнтры ўвагі шырокай грамадскасці. У панядзелак раніцай адвакат Віталя Шклярава **Антон Гашынскі** сустрэўся са сваім падабаронным і распавёў *TUT.BY* пра яго ўражанні.

– Такога ніколі яшчэ не было, каб кіраўнік краіны прыехаў размаўляць са зняволенымі, якіх прызнаюць палітычнымі. Я не ведаю такога, каб Пуцін ці Трамп рабілі нешта падобнае.

Я ўбачыў сёння Віталя – яго Лукашэнка запрасіў на размову разам з Ціханоўскім і Бабарыкам, якіх Віталь на гэтай сустрэчы ўбачыў упершыню. Яны правялі пяць гадзін – размаўлялі аб будучыні Беларусі, пратэстах і канстытуцыйнай рэформе, – распавёў Гашынскі.

Пасля сустрэчы, ужо пры развітанні, калі Віталь цісунў руку Лукашэнку, ён паскардзіўся, што даўно не быў у лазні.

– Тады Лукашэнка сказаў аднаму са сваіх ахоўнікаў: «Дзіма, арганізуй». Дзе дакладна ў лазні яны былі, Віталь не ведае, але іх усіх адвезлі ў лазню без канвою. Далі магчымасць спакойна памыцца і пагутарыць паміж сабой. Я бачыў сёння Віталя літаральна некалькі хвілін, але ясна, што ўсё, што адбылося, было вялікай нечаканасцю для яго – ён не чакаў, што размова будзе, як ён выказаўся, настолькі адкрытай і будзе магчымасць паспрачацца з прэзідэнтам твар у твар. Віталь кажа, што гэта першыя чалавечыя выхадныя за тры месяцы.

Гашынскі лічыць, што па палітычных зняволеных ужо прынята рашэнне.

– Здаецца, што гэтая сустрэча – пачатак дыялогу, пазітыўны знак. Але рух далей неабходны, спыняцца і спачываць на лаўрах рана, – рэзюмаваў адвакат.

На сустрэчы ў суботу прысутнічалі Віктар і Эдуард Бабарыка, юрыст, член Каардынацыйнай рады Лілія Уласава, бізнесовец Юрый Васкрасенскі, паліттэхнолаг Віталь Шкляраў. На сустрэчы таксама былі Кірыл Бадзей, які да арышту займаў пазіцыю выконваючага абавязкі старшыні праўлення "Белгазпрамбанка", а таксама дырэктар IT-кампаніі PandaDoc Дзмітрый Рабцэвіч, юрысты Максім Знак і Ілля Салей. Рабцэвічу і Васкрасенскаму ў суботу змянілі меру стрымання.

У сюжэтах, якія выйшлі на дзяржТБ, а таксама ў тэлеграм-канале «Пул першага», паказалі буйным планам амаль усіх удзельнікаў сустрэчы, у кадры толькі немагчыма апазнаць мужчыну ў цёмнай кепцы, які сядзіць паміж юрыстамі Знакам і Салеем. Не выключана, што гэта і быў Сяргей Ціханоўскі.

За сталом знаходзілася як мінімум 12 чалавек акрамя Лукашэнкі.

ТЕМА ДНЯ

## Какие изменения предлагается внести в Конституцию?

*Об этом вчера «Народной Воле» рассказал депутат Палаты представителей, председатель Либерально-демократической партии **Олег Гайдукевич**.*

– Как лидер партии и депутат парламента принимаю участие в диалоговой площадке по изменению Конституции нашей страны, – *сообщил он.* – Вот перечень вопросов, который будет обсуждаться, но подавайте свои предложения

1. Изменение избирательной системы, включая вопросы:

– перехода с мажоритарной на пропорциональную или смешанную избирательную систему;

– введения единого дня голосования.

2. Перераспределение конституционных полномочий Президента, Правительства, Парламента и местных органов.

3. Пересмотр механизмов назначения должностных лиц, назначаемых в настоящее время Главой государства (или по согласованию с Президентом Республики Беларусь), в том числе руководителей местных органов исполнительной власти и судей.

4. Срок полномочий избираемых органов.

5. Форма устройства Парламента (однопалатный или двухпалатный).

6. Отмена смертной казни.

7. Закрепление возможности применения заключения под стражу только на основании решения суда.

8. Введение должности Уполномоченного по правам человека.

9. Расширение круга лиц, имеющих право на обращение в Конституционный суд.

10. Сокращение функций Комитета государственного контроля (ограничив их осуществлением контроля за исполнением республиканского бюджета), преобразование данного органа в Контрольную палату.

11. Иные вопросы политико-идеологического характера (приоритетов внутренней и внешней политики, экологической безопасности, гендерных отношений и традиционных ценностей).

### ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

*Свой вариант Конституции уже довольно давно разрабатывает общественная конституционная комиссия, которую возглавляет **Мечислав Гриб.** Планирует ли комиссия направить свои предложения в Палату представителей?*

Известный юрист, экс-судья Конституционного суда **Михаил Пастухов,** который также входит в общественную конституционную комиссию, говорит, что не видит в этом смысла.

*«Мы считаем, что должна быть взята за основу Конституция 1994 года,* – высказывает свое мнение Пастухов. – *Мы должны добиться ее восстановления. А направлять какие-то предложения в Палату представителей – я лично против этого. Я считаю, что Палата представителей – нелегитимный орган власти, который играет постановочную роль и просто собирает предложения по изменению действующей Конституции. Но от них, депутатов, ничего не зависит, это очередной развод».*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

## Яшчэ адзін інцыдэнт у школе

Учора раніцай 12-гадовая школьніца ў жаночай раздзявалцы адной з устаноў адукацыі Пінска нажом параніла дзвюх аднакласніц, паведамляе ўпраўленне Следчага камітэта па Брэсцкай вобласці.

*"Адной з дзяўчынак нанесены цялесныя пашкоджанні, з якімі яна шпіталізавана. Другой вучаніцы аказалі медыцынскую дапамогу на месцы, і ў шпіталізацыі яна не мае патрэбы»,* – распавёў афіцыйны прадстаўнік УСК па Брэсцкай вобласці **Дзмітрый Іванюк**.

У адміністрацыі ўстановы адукацыі інцыдэнт пакуль не каментуюць.

З-ЗА КРАТАЎ

## «Сплю на верхняй паліцы, у душ схадзіць пакуль не даюць…»

*Адвакат сусветна вядомай баскетбалісткі **Алены Леўчанка** распавёў "Народнай Волі" пра ўмовы, у якіх яна адбывае пакаранне.*

*Як паведамляла "Народная Воля", 30 верасня Алене Леўчанка прысудзілі 15 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях пратэсту. Алену затрымалі ў аэрапорце – яна планавала вылецець за мяжу на лячэнне.*



"Алена распавяла, што умовы, канешне, не цукар, – *гаворыць адвакат* **Міхаіл Кірылюк.** – Сказала, што ложак дакладна не пад яе рост…

Вось якую інфармацыю я атрымаў ад яе 7 кастрычніка: "Кормяць не вельмі, самі разумееце. Сплю на верхняй паліцы, матрац ніякі, спаць непрыемна, спіна баліць, кіста на калене стварае дыскамфорт. Рухаемся мала, месца практычна няма, камера маленькая – восем метраў на два з паловай, і ў ёй чатыры чалавекі. У душ пакуль не даюць схадзіць, мыемся ў камеры. Сілу не прымяняюць».

Выйсці на волю баскетбалістка Алена Леўчанка павінна ўжо ў сераду або ў чацвер.

**Марына КОКТЫШ.**

ФИНАНСЫ

# Александр ЯРОШУК: «Моя пенсия – 1000 белорусских рублей»



*Председатель Ассоциации профсоюзов «Белорусский Конгресс демократических профсоюзов» рассказал «Народной Воле», почему вынужден был отказаться от зарплаты и как получил пенсию госслужащего.*

**– Александр Ильич, всегда есть люди, которых содержимое чужого кошелька интересует больше, чем своего собственного. Вот и в интернете нашлись те, кто решил подсчитать ваш доход и упрекнуть: мол, оппозиционер Ярошук получает пенсию госслужащего…**

– Оказалось, у меня достаточно выслуги, чтобы получать пенсию госслужащего. Я пенсию оформил в 2011 году, но стал получать ее лишь в июле этого года. Я работал, у меня была зарплата в БКДП, поэтому я терял бы примерно половину пенсии.

В последнее время в нашей организации серьезно осложнилось финансовое положение. Это случилось после того, как на ОАО «Беларуськалий» из Независимого профсоюза горняков вывели более 2000 человек, а это была основная организация, которая своими взносами обеспечивала наш бюджет. И мы были вынуждены уволить всех пенсионеров. Всего было пять человек в штате, из них – трое пенсионеров: юрист, международный секретарь и я. Теперь у нас нет зарплаты, мы перешли на пенсии. В том, что я получаю пенсию госслужащего, некоторые усмотрели факт того, что Ярошук жирует и паразитирует на теле государства. Ну что тут комментировать…

**– Но вы же эту пенсию не выклянчили, не украли, а заработали. Так почему должны отказываться?**

– Я эти деньги не получал 9 лет, с 2011 года. За всё это время пенсия не накапливалась. Я и сейчас бы, наверное, все еще не получал пенсию, это был вынужденный переход. За тот период, что возглавляю организацию, меня уже дважды штрафовали за невыплату зарплаты работникам.

**– Некоторые были уверены, что вы работали не за зарплату…**

– Это была моя принципиальная политика – обеспечить максимальную легализацию нашей организации, у нас должен быть свой бюджет, мы должны получать зарплату. И я сразу об этом говорил: взносы должны перечисляться в БКДП. До меня такой практики не было. И такой подход к работе выбил почву из-под ног тех, кто говорил, что мы на содержании ЦРУ, Моссада и других иностранных спецслужб. Мы формировали свой бюджет на протяжении многих последних лет и формируем его сейчас.

Решение сократить штат было непростым. Двух работников, которые заинтересованы в том, чтобы получать зарплату и нарабатывать пенсионный стаж, – зампредседателя Сергея Антусевича и главного бухгалтера Ирину Бут-Гусаим – мы перевели на половину оклада. Это вынужденная мера, просто не было другого выхода. И у нас сегодня хватает средств, чтобы выплатить зарплату, оплатить аренду, коммунальные платежи, эксплуатационные расходы. Год назад мы сменили место дислокации, искали, где можно платить меньше…

Я не сомневался, что рано или поздно все это вытащат на белый свет…

**– Если не секрет, сколько сегодня пенсия госслужащего?**

– Моя пенсия – 1000 белорусских рублей.

**– А какой у вас был стаж?**

– 20 лет и два месяца. В начале 2000-х годов был указ, согласно которому в стаж госслужбы стали включать стаж работы в государственных организациях, если ты работал в качестве руководителя или главного специалиста. А я, перед тем как попасть в партийные органы, четыре с лишним года работал главным агрономом совхоза, и мне их включили в стаж.

Ясное дело, кто сегодня заинтересован в том, чтобы дискредитировать меня и организацию…

**– Ну а какая в этом крамола? Все знают, что у вас богатое чиновничье прошлое. Почему вы должны дарить эту пенсию государству? Кстати, какую зарплату получал председатель БКДП?**

– Еще в 2003 году мне установили зарплату, эквивалентную 200 долларам. Деньги я получал в белорусских рублях, конечно. И на протяжении целого ряда лет она не повышалась. Последняя зарплата у меня была 230 рублей на полставки.

Естественно, это наши внутренние вопросы. Мы их не афишировали.

**– А спецслужбы, видите, решили на этом сыграть.**

– Я могу себе давным-давно позволить не оглядываться на комментарии и всякие гадости, которые пишут в интернете. Полжизни я работал на свое имя, а теперь имя работает на меня. Поэтому оправдываться, объяснять… Слава богу, что пишут! Один приятель издалека написал мне: если до сих пор пишут, значит, ты все делаешь правильно.

**– Многие почему-то считают, что оппозиция – это бедные, голые, нищие и безработные люди. Но фишка в том, что сегодня на протесты выходят те, кто ездит на дорогих машинах, получает хорошие зарплаты, владеет собственным бизнесом. Даже командир минского ОМОНа Дмитрий Балаба недавно с удивлением отметил этот факт: мол, чего *этим-то* не хватает?**

– Я думаю, на все эти вопросы в свое время дал ответ банкир Виктор Бабарико, которого мощно поддержали белорусы. Бабарико не скрывал свой достаток, и люди моментально сообразили: если хотим иметь более-менее приличный образ жизни, то должны следовать за теми, кто умеет заработать состояние для себя. Заработал для себя – значит, и для страны, и для народа сумеет! А те, кто пределами мечтаний народа делает чарку и шкварку, о себе, может, и позаботится. Но как сделать богатой страну и народ, они, к сожалению, не знают. И поэтому народ массово пошел за Бабарико.

А кухарки и кухари, которые управляют государством, не имея ни малейшего представления о том, как это делается, и обеспечивают равенство в нищете, – на них спрос невысокий. Очень удобно управлять нищими, привязанными к государственной кормушке. Мы с этой идеологией уже больше 100 лет живем, с 1917 года. И она полностью себя дискредитировала. У белорусов появился мощный запрос на государство, которым управляют современные топ-менеджеры. Они могут сделать всё для того, чтобы процветала страна и народ жил в достатке. На мой взгляд, это огромный прорыв!

**Марина КОКТЫШ.**

ПЕРАСЛЕД

# Каля 100 палітвязняў…

Паводле інфармацыі праваабаронцаў, на сёння ў Беларусі налічваецца каля 100 палітычных зняволеных, і іх колькасць пастаянна расце. Вось спіс тых, каго праваабарончая супольнасць прызнала палітвязнямі.

**1. Міхаіл Жамчужны –** грамадскі актывіст, праваабаронца.

2. **Мікіта Емяльянаў** – актывіст анархісцкага руху.

3. **Іван Комар** – актывіст анархісцкага руху.

4. **Андрэй Новікаў** – грамадзянін Расійскай Федэрацыі, валанцёр ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай.

5. **Арцём Сакаў** – член ініцыятыўнай групы па вылучэнні ў прэзідэнты Святланы Ціханоўскай.

6. **Аляксандр Арановіч** – член каманды YouTube-канала «Краіна для жыцця», кіроўца аўтадома.

7. **Дзмітрый Фурманаў** – член ініцыятыўнай групы па вылучэнні ў прэзідэнты Святланы Ціханоўскай.

8. **Сяргей Ціханоўскі** – блогер, аўтар YouTube-канала «Краіна для жыцця», прэтэндэнт на прэзідэнцкую пасаду.

9. **Святлана Купрэева** – сяброўкі сям'і прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду Віктара Бабарыкі і каардынатар яго ініцыятыўнай групы па адным з раёнаў Мінска.

10. **Уладзімір Дудараў** – каардынатар ініцыятыўнай групы Віктара Бабарыкі па Магілёўскай вобласці.

11. **Эдуард Бабарыка** – кіраўнік ініцыятыўнай групы прэтэндэнта ў кандыдаты на пасаду прэзідэнта Віктара Бабарыкі.

12. **Віктар Бабарыка** – прэтэндэнт у кандыдаты на пасаду прэзідэнта.

13. **Уладзімір Няронскі** – блогер, аўтар YouTube-канала «Слуцк для жыцця».

14. **Сяргей Пятрухін** – брэсцкі блогер, аўтар YouTube-каналаў «Народны рэпарцёр» і « YouTube-дэпутаты».

15. **Аляксандр Кабанаў** – брэсцкі блогер, аўтар YouTube-канала «Народны рэпарцёр», прэс-сакратар ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай.

16. **Уладзімір Цыгановіч** – блогер, аўтар YouTube-канала MozgON.

17. **Ігар Лосік** – адміністратар тэлеграм-канала «Беларусь головного мозга».

18. **Мікалай Статкевіч** – апазіцыйны палітык.

19. **Зміцер Казлоў** – блогер YouTube-канала «Шэры кот».

20. **Дзмітрый Карака** – адзін з каардынатараў ініцыятыўнай групы Віктара Бабарыкі.

21. **Сяргей Спарыш** – апазіцыйны палітык.

22. **Павел Севярынец** – сузаснавальнік аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя».

23. **Дзмітрый Папоў** – мадэратар сацыяльных сетак «Краіны для жыцця».

24. **Сяргей Коршун** – блогер тэлеграм-канала «Армія з народам».

25. **Віталь Шкляраў** – паліттэхнолаг, ураджэнец Гомеля, жыве ў ЗША.

26. **Уладзіслаў Карэцкі** – валанцёр штаба Віктара Бабарыкі.

27. **Андрэй Пазняк** – затрыманы ў межах справы аб масавых беспарадках.

28. **Антон Бяленскі** – валанцёр штаба Віктара Бабарыкі.

29. **Лявон Халатран** – валанцёр штаба Віктара Бабарыкі.

30. **Ігар Ярмолаў** – валанцёр штаба Віктара Бабарыкі.

31. **Аляксандр Францкевіч** – актывіст анархісцкага руху.

32. **Акіхіра Гаеўскі-Ханада** – актывіст анархісцкага руху.

33. **Ігнат Сідорчык** – рэжысёр.

34. **Аляксандр Шабалін** – сябра ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай у Гомелі.

35. **Юрый Савіцкі** – сябра ініцыятыўнай групы Віктара Бабарыкі.

36. **Арцём Хвашчэўскі** – прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

37. **Арцём Саўчук** – прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

38. **Юрый Уласаў** – давераная асоба кандыдаткі ў прэзідэнты Святланы Ціханоўскай па Гомельскай вобласці.

39. **Таццяна Канеўская** – давераная асоба кандыдаткі ў прэзідэнты Святланы Ціханоўскай у Гомелі.

40. **Данііл Богнат** – быў затрыманы ў Пінску ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

41. **Раман Багнавец** – быў затрыманы ў Пінску ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

42. **Алег Рубец** – затрыманы ў Пінску ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

43. **Артур Халімончык** – затрыманы ў Пінску ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

44. **Вячаслаў Рагашчук** – затрыманы ў Пінску ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

45. **Ягор Пракапчук** – затрыманы ў Брэсце ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

46. **Віталь Пракапчук** – затрыманы ў Брэсце ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

47. **Віктар Панцялееў** – затрыманы ў Брэсце ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

48. **Дзмітрый Кубараў** – затрыманы ў Мінску ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

49. **Аляксандр Васілевіч** – бізнесмен, сузаснавальнік анлайн-выданняў kyky.org і TheVillage-Беларусь, уладальнік агенцтва Vondel/Hepta і пrasторы «Галерэя Ў».

50. **Лілія Уласава** – сябра прэзідыума Каардынацыйнай рады, вядомы юрыст і міжнародны медыятар, партнёр і дырэктар юрыдычнай кампаніі «Уласава, Міхэль і партнёры».

51. **Юлія Шардыка** – галоўны бухгалтар IT-кампаніі PandaDoc.

52. **Віктар Куўшынаў** – дырэктар па прадукце IT-кампаніі PandaDoc.

53. **Уладзіслаў Міхалап** – супрацоўнік IT-кампаніі PandaDoc.

54. **Марыя Калеснікава** – сябра прэзідыума Каардынацыйнай рады, кіраўнік выбарчага штаба Віктара Бабарыкі.

55. **Ілля Салей** – адвакат Марыі Калеснікавай.

56. **Максім Знак** – сябра прэзідыума Каардынацыйнай рады па ўрэгуляванні палітычнага крызісу, адвакат.

57. **Вячаслаў Шэлямет** – быў затрыманы па падазрэнні ва ўдзеле ў масавых беспарадках.

58. **Дзяніс Чыкалёў** – затрыманы ў Мінску ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

59. **Ягор Сугойдзь** – затрыманы ў Мінску ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

60. **Ігар Салавей** – быў затрыманы па справе аб масавых беспарадках у Пінску.

61. **Мікалай Сасеў** – затрыманы ў Мінску ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

62. **Дэвід Масціцкі** – затрыманы ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

63. **Алег Мазгоў** – затрыманы ў Мінску межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

64. **Алена Маўшук** – затрымана ў межах крымінальнай справы аб масавых беспарадках.

65. **Станіслаў Міхайлаў** – затрыманы ў Пінску ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

66. **Аляксей Караткоў** – CEO-распрацоўшчык стартапа MakeML.

67. **Дзяніс Кірэшчанка** – затрыманы ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

68. **Сяргей Капанец** – затрыманы ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

69. **Марфа Рабкова** – праваабаронца, каардынатар валанцёрскай службы.

70. **Сцяпан Латыпаў** – арбарыст і дырэктар кампаніі "Беларбо".

71. **Павел Пяскоў** – абвінавачаны ў супраціўленні супрацоўнікам АМАПа з ужываннем гвалту падчас затрымання сілавікамі мірных пратэстоўцаў на акцыі 19 чэрвеня 2020 года ў г.Маладзечне.

72. **Уладзіслаў Еўсцігнееў** – абвінавачаны ў супраціўленні супрацоўнікам АМАПа з ужываннем гвалту падчас затрымання сілавікамі мірных пратэстоўцаў на акцыі 19 чэрвеня 2020 года ў г.Маладзечне.

73. **Павел Юхневіч** – актывіст грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь».

74. **Яўген Афнагель** – актывіст грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь».

75. **Андрэй Войніч** – актывіст грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь».

76**. Андрэй Расулаў** – быў затрыманы 22 верасня ў Гомелі. Знаходзіцца ў статусе падазраванага за падзеі 9 жніўня па артыкуле «Групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак».

77. **Аляксандр Кісялёў** – жыхар Жлобіна. Прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле «Групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак».

78. **Яўген Каханоўскі** – жыхар Жлобіна. Прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле «Групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак».

79. **Марына Глазава** – затрымана ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак».

80**. Ілля Паланянкін** – затрыманы ў межах крымінальнай справы па артыкуле «Групавыя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак».

81. **Марк Салоннікаў** – быў затрыманы ў межах крымінальнай справы аб масавых беспарадках.

82. **Дзяніс Марусевіч** – прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

83. **Арцём Касакоўскі** – быў затрыманы 27 верасня ў межах справы аб масавых беспарадках.

84. **Расціслаў Стэфановіч** – сябра пашыранага складу Каардынацыйнай рады.

85. **Мікіта Ганчароў** – затрыманы ў межах крымінальнай справы аб масавых беспарадках.

86. **Уладзімір Гарох** – затрыманы па так званай «карэліцкай справе».

87. **Максім Зіневіч** – затрыманы ў межах крымінальнай справы аб масавых беспарадках.

88. **Міхаіл Калішук** – знаходзіцца ў статусе падазраванага па крымінальнай справе аб масавых беспарадках.

89. **Антаніна Канавалава** – давераная асоба Святланы Ціханоўскай.

90. **Іван Красоўскі** – актывіст анархісцкага руху.

91. **Ілля Мігно** – быў затрыманы па крымінальнай справе «Удзел у масавых беспарадках».

92. **Віктар Шаўра** – прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

93. **Ганна Сунгурава** – знаходзіцца ў статусе падазраванай па артыкуле «Удзел у масавых беспарадках».

94. **Тамаз Піпія –** футбольны балельшчык, затрыманы ў Гродне па падазрэнні ў арганізацыі масавых беспарадкаў.

95. **Цімур Піпія –** футбольны балельшчык, быў затрыманы ў Мінску па падазрэнні ў арганізацыі масавых беспарадкаў.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Святара зноў будуць судзіць?

*У Ваўкавыску на асуджанага за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве святара міліцыя склала яшчэ адзін пратакол.*

## Суддзя быў здзіўлены…

Праваслаўны святар **Аляксандр Богдан** распавёў "Народнай Волі", што першы раз супрацоўнікі міліцыі склалі на яго рапарт за тое, што ён ўсклаў кветкі да імправізаванага мемарыяла ля музея Баграціёна, дзе працаваў дырэктарам загінуўшы пасля прэзідэнцкіх выбараў Канстанцін Шышмакоў, а пасля разам з іншымі ў калоне вяртаўся дадому.

– *Я асабіста быў знаёмы з Канстанцінам Шышмаковым, і хацеў ушанаваць яго памяць,* – распавядае бацюшка.

У жніўні "Народная Воля" пісала аб знікненні дырэктара Ваўкавыскага музея. Увечары 15 жніўня ён патэлефанаваў жонцы, сказаў, што не будзе больш працаваць у музеі і што едзе дадому. Са слоў бацькі, Канстанцін адмовіўся падпісаць выніковы пратакол выбарчай камісіі 9 жніўня. Ягоны аўтамабіль знайшлі ў Мастоўскім раёне 18 жніўня, ягонае цела – у лесе побач. У Канстанціна Шышмакова засталіся жонка і маленькая дачка. Ніякай афіцыйнай інфармацыі аб выніках следства пакуль няма.

Да музея прыйшлі і іншыя людзі, якія пасля ўскладання кветак прапанавалі правесці бацюшку дахаты. Некаторыя трымалі ў руках бел-чырвона-белыя сцягі.

Пазней праз тэлефонны званок яго запрасілі на размову ў міліцыю. Там ужо былі складзены рапарты двух супрацоўнікаў, у якіх было запісана, што святар ішоў у калоне і выкрыкваў лозунгі. Быў складзены пратакол, але Аляксандр Богдан з ім не пагадзіўся.

Некаторыя міліцыянеры, з яго слоў, спрабавалі дакараць: маўляў, бацюшка павінен заклікаць да міру, а не хадзіць на несанкцыянаваныя мітынгі. У адказ айцец Аляксандр запрасіў іх прыходзіць у храм і там паслухаць, да чаго ён заклікае прыхаджан у пропаведзях.

Падчас судовага пасяджэння, заўважае святар, суддзя быў здзіўлены тым, што на яго склалі пратакол, і нават выказаў думку, што супрацоўнікам міліцыі дастаткова было правесці тлумачальную гутарку. Тым больш што ў судзе міліцыянеры ўжо не сведчылі пра тое, што айцец Аляксандр выкрыкваў лозунгі, а толькі сказалі, што бачылі, як ён ішоў разам з астатнімі. Суд вынес святару папярэджанне.

## «Сказалі, што начальнік хоча пагаварыць са мной»

Напрыканцы мінулага тыдня айцец Аляксандр пакінуў у "Фэйсбуку" запіс, у якім распавёў працяг сваёй гісторыі.

У мінулы чацвер да яго пасля літургіі завіталі двое міліцыянераў і запрасілі на размову: маўляў, начальнік хоча пагаварыць адносна падпалаў, якія адбыліся ў Ваўкавыску. У аднаго з міліцыянераў за адну ноч падпалілі машыну і дом, які толькі будаваўся.

Айца Аляксандра прывезлі ў РАУС і пакінулі аднаго ў кабінеце. Праседзеўшы там больш за паўгадзіны і не дачакаўшыся размовы, ён папросту ўстаў і пайшоў дахаты. Па дарозе яго дагнаў лейтэнант Бойка і папрасіў вярнуцца: маўляў, на вас заведзена адміністрацыйная справа па арт.23.34 за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве.

Бацюшка быў здзіўлены і сказаў супрацоўніку міліцыі, што яго за гэта ўжо асудзілі. Той адказаў, што гэта іншая справа, і прапанаваў вярнуцца.



*"У кабінеце ён паказаў фота, на якім быў чалавек, падобны да мяне,* – распавядае бацюшка. – *Лейтэнант патлумачыў, што я абвінавачваюся ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве".*

У пратаколе айцец Аляксандр напісаў, што з ім не згодны. Тым не менш лейтэнант патлумачыў, што ў бацюшкі ўжо паўторнае парушэнне закона. Хаця мітынг, ва ўдзеле ў якім яго абвінавачвалі, быў яшчэ да таго нібыта шэсця, за якое яго асудзілі, і быў дазволены старшынёй Ваўкавыскага райвыканкама.

Яшчэ праз дзень лейтэнант ізноў прыйшоў да айца Аляксандра і пачаў тлумачыць, што ў пратакол унесены змены і, маўляў, яго ўжо вінавацяць не па ч.3, а па ч.1 арт 23.34 , бо парушэнне насамрэч было здзейснена раней, чым адбыўся суд.

Аднак, калі бацюшка заўважыў, што ў копіі пратакола адсутнічае часціца "не" перад словам "згодны", а значыцца, што ён нібыта з пратаколам пагаджаецца, адмовіўся браць гэту паперу. Яна так і засталася ляжаць на прыступках царквы.

## «Я святар і абавязаны прапаведаваць...»

Прэс-сакратар Гродзенскай епархіі дыякан **Дзмітрый Паўлюкевіч,** распавядаючы пра айца **Аляксандра Богдана**, зазначыў, што падчас вучобы ў семінарыі жыў з ім у адным пакоі і добра ведае. Ён быў здзіўлены тым, што той мог зрабіць нешта падобнае таму, у чым яго абвінавацілі.

– *Увесь Ваўкавыск ведае яго як місіянера, які прапаведуе толькі Евангелле. Нават у той самай міліцыі ён не аднойчы быў з лекцыямі і гутаркамі. Не цураецца дапамагаць сацыяльна не адаптаваным людзям, неаднойчы наведваў Ваўкавыскую калонію, праводзіць сустрэчы з алкаголікамі. Прычым ён робіць гэта не для разавай карцінкі, а цягам многіх гадоў. Без фінансавай падтрымкі. Цвёрда, упарта, метадычна,* – распавёў прэс-сакратар Гродзенскай епархіі.

Дарэчы, айцец Аляксандр на пытанне "Народнай Волі", ці будзе ён яшчэ ўдзельнічаць у сустрэчах з супрацоўнікамі міліцыі, калі яго будуць запрашаць, адказаў коратка:

– *Я святар і абавязаны прапаведаваць вучэнне Хрыста.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

*Внимательные читатели «Народной Воли», пожалуй, помнят мой рассказ-исповедь «Песня без слов», опубликованный в номерах за 10 и 13 сентября 2019 года. Честно признаюсь: впервые в жизни я испытал такое количество волнующих и радостных эмоций, вызванных искренними сердечными читательскими отзывами! Мне писали и звонили знакомые и незнакомые люди из самых разных уголков Беларуси. Многие находили мои координаты по телефонным справочникам и в социальных сетях.*

*Отклики были только восторженные. Многие признавались, что искренне плакали над некоторыми драматическими и трагическими моментами, описанными в моих воспоминаниях. Один из позвонивших читателей даже сказал, что «Песню без слов» он смело поставил бы в один ряд с такими великими произведениями литературы о настоящей и трагической любви, как «Ромео и Джульетта» Уильяма Шекспира и «Гранатовый браслет» Александра Куприна. Я, конечно, и близко не могу поставить себя рядом с классиками и понимаю, что со стороны моего приверженца это очень сильный перебор, но, признаюсь, слышать это было приятно!*

*Из города Молодечно мне написала пенсионерка по имени Нина Петровна, бывшая учительница школы искусств. Она назвала Наталью Николаевну, мою первую юношескую любовь, главную героиню рассказа-исповеди, лучшим образцом настоящей женской любви. Кроме того, моя героиня оказалась еще и беззаветно любящей матерью и бабушкой, не пережившей трагическую гибель сына и внучки. Свою единственную большую любовь, обреченную жизненными обстоятельствами, она пронесла через всю жизнь до последнего вздоха и унесла с собой в вечный мир сохраненные ею реликвии-символы этой любви: мою юношескую записку с признанием в любви, театральную программку сакрального для нас обоих спектакля Пермского театра оперы и балета «Жизель» и ноты посвященной ей моей «Песни без слов».*

*Читатели «Народной Воли», ознакомившись с моими воспоминаниями, довольно часто спрашивали меня: каким образом мои ближайшие предки-белорусы оказались в ГУЛАГе на далеком Урале, где я провел детство, отрочество и юность, где встретил свою первую любовь, которая остается в моем сердце по сегодняшний день? Что заставило меня обратиться к истокам своего рода по материнской линии, вернуться на историческую родину, остаться здесь, полюбить эту землю, этот народ, осознать себя белорусом, а Беларусь всей душой признать сваёй Радзімай.*

*Пераходзячы на матчыну мову, скажу: гэта акалічнасць падштурхнула мяне да думкі зноў узяцца за пяро. Драматычная і нават трагічная гісторыя майго роду адлюстроўвае цэлы пласт доўгага перыяду гісторыі ўсяго сялянства Беларусі, асабліва той яго часткі, што пражывала на ўсходніх тэрыторыях. Напісаць менавіта па-беларуску. Нягледзячы на тое, што жыццё маё ад нараджэння да 22 гадоў прайшло на Урале, і беларускую мову, натуральна, у школе я не мог вывучаць. Але ж вывучыў у Беларусі. Як грамадзянін я абавязаны ведаць мову маці, мову яе бацькоў, дзядоў.*

*Мова наша вельмі прыгожая і меладычная, і я не мог не палюбіць яе! Магу з гонарам сказаць, што на сённяшні дзень валодаю ёю досыць нядрэнна. Ва ўсялякім разе лепш за некаторых карэнных беларусаў, якія, як ні прыкра, іншы раз патрабуюць, каб з імі “разгаварывалі на чалавечаскім языку”.*

*Я педагог-музыкант, з дзяцінства ствараю музыку, таму маё асяроддзе – гэта ў асноўным творчая інтэлігенцыя, якая, бадай, галоўны носьбіт роднай мовы. У мяне шмат сяброў – беларускамоўных паэтаў, на вершы якіх я нярэдка пішу музыку. Таму не ведаць і не любіць беларускую мову не маю права.*

*Пасля “Песні без слоў” я напісаў матэрыял гістарычнага плану, даўшы яму назву “Застацца чалавекам”. Каб прыхільнікам “Народнай Волі” было зручней чытаць, падзяліў яго на тры сэнсавыя часткі: “На мяжы стагоддзяў”, “Егерскі марш” і “C’est la vie – такое жыццё”. За аснову аповеда, які ахапіў перыяд ад 1894-га па 1972 год, узяў лёс майго роднага дзядулі па мацярынскай лініі Паўла Раманавіча, які вельмі характэрны для вялікага мноства беларусаў.*

*А наш цяперашні час ці не нагадвае жахі той далёкай эпохі?*

*Я прысвяціў свой твор светлай памяці беларусаў – ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Але вельмі хацеў бы, каб мы ўсвядомілі падзеі таго часу ў святле нашых сённяшніх рэалій.*

*Жыве Беларусь!*

**Валянцін ПЕРАПЁЛКІН-КІСЯЛЁЎ.**
*г.Іванава Брэсцкай вобласці.*

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

Валянцін ПЕРАПЁЛКІН-КІСЯЛЁЎ

# ЗАСТАЦЦА ЧАЛАВЕКАМ

*Светлай памяці беларусаў, якія сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій, прысвячаю. (Частка першая)*

## На мяжы стагоддзяў

У пажылога Рамана нарадзілася доўгачаканае дзіця. Не, далёка не першае. Яго Ганна нараджала ўжо дванаццаць разоў. Дзевяць дзяцей выжылі, трое памерлі. Пры тым выжылі дзяўчынкі, а паміралі хлопчыкі. І вось на сорак шостым годзе свайго жыцця яна зноў нарадзіла хлопчыка.

Ішоў 1894 год, і яго з’яўленне на свет супала па часе з каранацыяй расійскага імператара Мікалая ІІ. Таму беларускі селянін, законапаслухмяны грамадзянін і праваслаўны хрысціянін (якім па праве лічыў сябе Раман) успрыняў гэта як добры знак. Жыў Раман на хутары побач з вёскай Слабодка. Меў невялічкую, але даволі моцную сялянскую гаспадарку. Існаваў нябедна, але працаваць даводзілася з ранку да ночы не пакладаючы рук. На яго падворку было некалькі кароў, коней, невялікая атара авечак. Да таго ж сеяў жыта, авёс. Таму яму гэтак не хапала ў гаспадарцы мужчынскіх рук! Акрамя таго, Раман бесперапынна думаў аб надыходзячай старасці і аб нашчадку ўсяго нажытага ім скарбу.

Бацькі немаўляці разумелі, што Гасподзь дае ім апошні шанец, таму літаральна трэсліся над дзіцем і як маглі засцерагалі. Хлопчык рос надзіва моцны і кемлівы. Вучыўся лёгка і з ахвотай: бацька аддаў яго ў школу, якая знаходзілася ў пяці вёрстах ад яго хутара – у сяле Кароткавічы. Малы выказваў цікавасць да ўсіх прадметаў, якія вывучаліся ў школе. Але больш за чатырохкласную адукацыю бацька яму дазволіць не мог: занадта шмат сіл і часу аднімала хатняя гаспадарка, а дапамога падрастаючага хлопца была вельмі запатрабавана. Праўда, цікавасць да навук у хлопца не слабела, і таму ў рэдкія вольныя ад працы дні ён часам запрагаў каня, ехаў за трыццаць вёрст да паявятовага мястэчка, дзе мелася нядрэнная бібліятэка. Яго цягнула да натуральных навук. Ён падрабязна вывучаў батаніку, заалогію, анатомію і фізіялогію, самастойна вывучаў асновы хіміі. Раман у душы радаваўся за сына, але захапленняў яго не заахвочваў: працу на зямлі ён, патомны селянін, лічыў галоўнай справай як свайго жыцця, так і ўсяго роду.

Тым часам юнак рос, бы на дражджах. У сямнаццаць гадоў ён ужо вымахаў амаль пад два метры. У яго быў добры ветлівы твар, выразныя карыя вочы, а нос з лёгкай гарбінкай зусім не псаваў агульнага ўражання. Як і яго равеснікі, па вялікіх святах малады чалавек любіў хадзіць на вячоркі, зазіраў на дзяўчат. Але ў першую чаргу там яго зачароўвала музыка. Менавіта тут ён упершыню ў сваім жыцці пачуў музычныя гукі, якія здабываў гарманіст з рускай “паўхромкі”. Гэта быў адзіны музыкант на ўсю акругу, і моладзь шчодра разлічвалася з ім натуральнымі сельгаспрадуктамі, а іншы раз і рублём… Першы час хлапчук як зачараваны, раскрыўшы рот, слухаў цудоўныя гукі, зусім не думаючы аб танцах з дзяўчатамі. Але аднойчы ён не вытрымаў.

– Дзядзька, дазволь мне гармонік патрымаць, хачу сам паспрабаваць!... – звярнуўся да гарманіста.

Той паблажліва дазволіў. Хлапчына разгарнуў мяхі гармоніка, націснуў на кнопачкі злева і справа, пры гэтым пачуліся дзікія рэзкія гукі. Але ён хутка ўсвядоміў сістэму іх пабудовы ў абедзвюх руках, пачаў інтуітыўна ўтаймоўваць гукі, мелодыя рабілася ўсё больш і больш арганізаванай, і нарэшце хвілін праз дзесяць-пятнаццаць хлопец ужо ўпэўнена скапіраваў польку, якая толькі што гучала ў выкананні немаладога гарманіста. Для ўсіх прысутных (дый і для яго самога) гэта была сапраўдным дзівам! І з той хвіліны юнак проста захварэў на музыку. Ён маліў свайго бацьку, каб той купіў яму гармонік. Стары Раман доўга супраціўляўся: па-першае, інструмент каштаваў вельмі дорага. Па-другое, ён баяўся, што сын не на жарт захопіцца музыкай. Музыкантаў ён не любіў. Лічыў іх лайдакамі і дармаедамі, а музыку – нявартым заняткам для земляробапрацаўніка. Але чаго не зробіш дзеля адзінага і любага сына! Прадаўшы адну з кароў, купіў сыну ў горадзе размаляваную, інкруставаную рознакаляровымі каменьчыкамі і шкельцамі тульскую “хромку”. Цяпер у вольны ад сялянскай працы час хлопец нязменна браў гармонік у рукі, і ў доме гучалі беларускія полькі, старадаўнія вальсы, рускія “Барыня” і “Подгорная”, польскі “Кракавяк”. Словам, усё тое, што ён чуў на вячорках. Састарэлая Ганна была ў захапленні ад сынавай музыкі і заўсёды ў такія хвіліны ціхенька плакала ад замілавання.

Аднойчы Раман, услухоўваючыся ў новыя музычныя інтанацыі, са здзіўленнем запытаўся:

– Адкуль ты ўзяў гэтую польку? Я такой за ўсё сваё жыццё ніколі не чуў!

– А ніадкуль і не браў, – адказаў сын. – Я яе сам прыдумаў.

– Сам прыдумаў? А хіба такое можа быць?

– Ну, нехта ж музыку прыдумляе...

Стары задумаўся: “А і праўда: не з неба ж яна падае... А можа быць, якраз менавіта з неба?..”

Словам, наш юнак сапраўды стаў першым хлопцам на вёсцы! Ды што там на вёсцы – ва ўсёй акрузе! На вячорках збіралася моладзь з усіх навакольных вёсак. Там ён часцяком браў гармонік у свае рукі, з кожным разам усё больш дасканалым рабілася яго выканальніцкае майстэрства. Дзяўчаты з роднай Слабодкі даўно ўжо ў ім душы не чулі, але ён паклаў вока на чужую дзяўчыну з далёкай вёскі і, здаецца, не на жарт закахаўся. Бацькі сталі заўважаць, што ён усё часцей познімі вечарамі пакідаў хутар, з’язджаючы на сваім жарабцы. Яны спрабавалі распытаць сына аб яго абранніцы, але хлопец усяляк пазбягаў размоў.

Тады Раман праз людзей навёў сякія-такія даведкі пра гэту дзяўчыну. Атрыманая інфармацыя глыбока ўсхвалявала старога бацьку, і ён вырашыў выклікаць сына на шчырую гутарку. Але той апярэдзіў яго.

– Тата, я вельмі прашу цябе: дазволь мне ажаніцца. Я даўно кахаю адну дзяўчыну, самую мілую, самую прыгожую… І яна мяне кахае. Я больш не магу і не хачу жыць без яе! – І ён распавёў бацьку ўсё, што ведаў пра сваю абранніцу і яе сям’ю.

– Але ж табе ўсяго сямнаццаць гадоў, аб чым ты гаворыш? Ты думаеш, калі вымахаў амаль што ў сажань, то ўжо і гатоў трымаць сям’ю?

– Гатоў. Да таго ж яна вельмі працавітая, і ў нашым доме будзе спраўнай памочніцай і маме, і па гаспадарцы.

– Я не бачыў тваёй дзеўкі, нічога пра яе не магу сказаць, але пра яе бацькоў тое-сёе чуў! Ты ведаеш, што яе бацька – галадранец, несусветны гультай і п’яніца? Тры лапікі зямлі – і тыя апрацаваць не можа. Жонку сваю, як нап’ецца, лупцуе. Дзеці (іх пяцёра ў яго разам з тваёй ненагляднай) вечна галодныя і раздзетыя. Яму й добра збыць адну з дачок у якую-небудзь спраўную сям’ю: адным ротам у доме менш стане!..

– Тата, яна вельмі добрая і працавітая! А пра яе бацьку шмат лухты нясуць… Да, ён малазямельны. Да, любіць выпіць… Але ён зусім не гультай, ён проста слабы здароўем…

– Вось-вось! – перабіў яго Раман. – Але ж п’е! І здароўе сваё слабое можа дачцэ перадаць замест прыданага. Ды што возьмеш з жабрака?

– Бацька, калі не дазволіш мне з ёй ажаніцца, клянуся табе: я застрэлю яе, а потым сябе… І я цябе не пужаю.

Раман зірнуў сыну ў вочы. У іх ён прачытаў адчай і поўную рашучасць. “Да – падумаў, – у гэтага хопіць розуму…”

– Вось што, сын… Перш чым я нешта вырашу, мне трэба пабачыць яе… Але як гэта зрабіць?

У тыя часы лічылася вельмі непрыстойным, нават недапушчальным, каб хлопец да вяселля прыводзіў абранніцу ў свой дом, якая б падстав ні была. Таму бацька дамовіўся з сынам, што ў адзін з вечароў ён “неспадзявана” сустрэне іх на ускрайку вёскі. І вось, калі гэты прызначаны вечар настаў, стары Раман запрог коніка ў сваю брычку і выехаў на сустрачу з лёсам свайго сына. Не даязджаючы да той вёскі, ён прыкмеціў і пазнаў каня, а таксама маладую пару каля яго. Раман пад’ехаў бліжэй…

О божачкі! Побач з яго высокім, мажным сынам стаяла маленькая, ці ледзь не ў два разы ніжэй за яго, худзенькая, перапалоханая, бы верабейка, дзяўчынка з доўгай русай касой. Яна ўзняла на будучага свёкра вялікія, чыстыя, дзівосна прыгожыя шэрыя вочы, у якіх той прачытаў і жах, і надзею, і нейкае асаблівае ўнутранае святло…

Дзяўчына шчыльна прыціснулася да свайго каханага, нібы шукаючы ў яго абароны. І гэта атрымалася так кранальна, што ў старога пацяплела на душы. Ён усміхнуўся:

– Добра, мае дзеці, прышлю я сватоў… Але вяселле будзем ладзіць толькі пасля Вялікадня, вясной…

Дзеці, не згаворваючыся, упалі перад бацькам на калені…

**P.S.** *…Ішоў красавік 1912 года. Месяц, які навекі звязаў лёсы двух закаханых. Яны пражывуць разам у каханні і згодзе роўна шэсцьдзясят доўгіх гадоў, захаваўшы лебядзіную вернасць і адданасць адзін аднаму. Для абодвух гэта любоў будзе адзінай на ўсё жыццё. Яна вытрымае ўсё: гады страшэнных выпрабаванняў і страт, тры крывавыя вайны, дзве разбуральныя рэвалюцыі, подлы агавор і здраду, доўгія гады катаржнай высылкі. Для мяне любоў гэтых людзей назаўжды застанецца Святыняй. А роўна праз трыццаць чатыры гады ў красавіку на далёкім таежным Урале ў адным са спецпасяленняў Пермскага ГУЛАГа Павел Раманавіч і Хрысціна Рыгораўна Кісялёвы стануць маімі любымі дзядулем і бабуляй.*

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

Ігар БАРЫСАЎ:

# «Ва ўсёй сям’і ўзялі тэсты, цяпер сядзім на самаізаляцыі…»

*Жонка старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Алена Барысава захварэла на каранавірус.*

*“Народная Воля” пацікавілася ў Ігара і Алены Барысавых падрабязнасцямі.*

**– Ігар, як ваша здароўе?**

– Маё нармальна, а вось жонка хварэе. Пачалося з таго, што спачатку яна перастала адчуваць пахі. Дні праз тры-чатыры пачала крыху панікаваць, звярнулася ў паліклініку, там узялі тэст. І праз два дні пацвердзілася, што ў яе каранавірус. Недзе праз дзень падвысілася тэмпература, але не надта крытычна. Яшчэ ў жонкі насмарк, аднак іншых сімптомаў няма. Доктар да нас прыходзіла, паслухала жонку, сказала, што з лёгкімі ўсё нармальна.

**– Праблем з дыханнем няма?**

– Не.

**– А дзеці? У школу ходзяць?**

– Не. Інфармацыю амаль адразу пераслалі ў дзіцячую паліклініку, адтуль прыехалі ўзяць у дзяцей тэсты. Яны таксама на самаізаляцыі.

І я падпісаў афіцыйныя паперкі, што сыходжу на самаізаляцыю як кантакт першага ўзроўню. Так што тэсты мы здалі ўсёй сям’ёй.

**– Для вас гэта, калі не памыляюся, ужо другі тэст на каранавірус. Першы раз здавалі, калі вярталіся з падарожжа па Амерыцы?**

– Не, што вы! Тады па прылёце ў Мінск у аэрапорце ў мяне нават пашпарт не праверылі, бо я з Масквы ляцеў. Ні пра якія тэсты ўвогуле гаворкі не было!

**– Бачу, вы аптымістычна трымаецеся, не падаеце духам…**

– Ну так. Адзінае, канешне, не надта прыемна адчуваць сябе скаваным, бо нельга выходзіць з дома ад двух да трох тыдняў – у залежнасці ад таго, што пакажуць тэсты.

**– Быццам жа скарацілі тэрміны каранціну?**

– Самаізаляцыя – два тыдні, а 10 дзён – гэта новая норма для тых, хто вяртаецца з краін з неспрыяльным эпідэміялагічным становішчам.

**– Але вы на бальнічным?**

– Так, даюць на 21 дзень па каранавірусе, наколькі я разумею…

Жыццё часова нібыта пастаўлена на паўзу. У краму і аптэку хадзіць можна, а больш – нікуды. І перыядычна міліцыя будзе правяраць, як мы выконваем рэжым самаізаляцыі.

**– Хвароба – такая штука, якая можа ў любы момант парушыць твае планы.**

– Так, хвароба і смерць прыходзяць тады, калі іх чакаеш менш за ўсё. Але ўсё будзе добра, прарвёмся, я перакананы!

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Алена БАРЫСАВА:

## «Здаецца, я разумею, чаму ў нашай краіне расце колькасць захворванняў на COVID-19…»

– Тэмпература ў мяне была ўвесь час невялікая, каля 37,1, – *распавяла Алена Барысава “Народнай Волі”.* – Адзінае што – першыя дні адчувала слабасць, нават падумала: відаць, было шмат працы і я проста моцна стамілася. І пахі зніклі. Але зараз яны ўжо паціху вяртаюцца.

**– Бачу, што многія людзі неяк расслабіліся, быццам каранавіруса не існуе: і ў магазіны ходзяць без масак, на акцыі пратэсту таксама... Вы захоўвалі меры бяспекі?**

– Канешне! Я месцы агульнага карыстання наведвала толькі ў масцы. Ну хіба толькі ў сцяпянскім лесе гуляла з дзецьмі без маскі. У мяне ёсць антысептык-спрэй – ён таксама ўвесь час са мной. І на працы мы апрацоўвалі антысептыкам ручкі




дзвярэй, рукі мылі – гэта абавязкова!

**– Адным словам, адкуль заляцеў да вас гэты вірус – незразумела?**

– Так. І я з верасня не хадзіла на мірныя дэманстрацыі, таму сама здзіўляюся, дзе магла падчапіць хваробу. І нават па магазінах Ігар часцей за мяне ходзіць, я вельмі рэдка.

**– Тэст вам рабілі які? Па крыві?**

– Не, бралі мазок з носа. Кроў дактары рэкамендуюць здаваць на дзясяты-трынаццаты дзень пасля таго, як хвароба ўжо праявілася. Бо раней ён можа проста не паказаць дакладны вынік.

Дарэчы, з сімптомаў у мяне акрамя насмарку толькі голас крыху змяніўся.

**– Я чую: крыху сіпаты… Антыбіётыкі вам прызначылі ці якія іншыя лекі рэкамендавалі?**

– Антыгістамінныя прэпараты, бо быў невялікі ацёк носа і горла. “Сінупрэт” яшчэ, і сказалі піць вялікую колькасць вады.

Днямі доктар нават вечарам прыбегла мяне паслухаць, каб ускладненні раптам на лёгкія не пайшлі.

**– На камп’ютарную тамаграфію не накіроўвалі?**

– На самай справе няма падстаў для КТ, бо ў мяне каранавірус працякае ў форме лёгкай прастуды. У мяне раней была пнеўманія без кашлю, таму я добра ведаю, як тады баліць, якія сімптомы, – зараз нічога такога няма.

**– Лічбы па каранавірусе, канешне, у краіне растуць…**

– І я, здаецца, разумею, чаму так адбываецца. Напрыклад, я сваіх дзяцей яшчэ на мінулым тыдні ізалявала, калі ў мяне толькі з’явіліся падазрэнні на COVID-19. У школу не пусціла.

На нашу 14-ю паліклініку прыходзіцца да 70 чалавек у дзень з падазрэннем на каранавірус – гэта тыя людзі, да якіх выязджае кавідная брыгада. І справа ў тым, што, пакуль я чакаю выніку тэста на каранавірус, мае дзеці і ўсе члены сям’і (і я таксама!) можам хадзіць і бываць дзе заўгодна! Ніякай забароны няма. Я нават тэлефанавала загадчыцы дзіцячай паліклінікі з гэтым пытаннем. Яна сказала: няма падстаў не пускаць дзяцей у школу. Дык а з маральнага боку: як я аднаго дзіцёнка павяду ў дзіцячы садок, а другую – у школу, калі ў мяне ёсць адпаведныя сімптомы і небеспадстаўнае падазрэнне на каранавірус?!

Больш за тое: папярэджанне аб самаізаляцыі падпісала толькі я, а мае дзеці ўсё роўна могуць хадзіць у садок і школу. Але ж яны жывуць са мной у адной кватэры, мы кантактуем. Мне падаецца, што калі ёсць падставы, калі ўзялі мазкі, то правільна было б пасядзець на ізаляцыі да атрымання вынікаў тэста ўсёй сям’і. І мы, дарэчы, так і зрабілі. Але ж нехта не сябруе з галавой і працягвае наведваць грамадскія месцы. Я і ў паліклініцы пра гэта сказала, і мне – быццам як выключэнне – далі даведку для школы і садка.

Людзі самі разносяць гэтую інфекцыю, і без масак шмат хто ходзіць. Вось таму ў нас і растуць штодзень лічбы па каранавірусе.

**– Алена, здароўя вам і ўсёй вашай сям’і!**

– Дзякуй!

**Марына КОКТЫШ.**

ВНЕ ИГРЫ

с Алесем СИВЫМ

# Полные нули!

Сборная Беларуси по футболу впервые имела реальный шанс войти в историю – выступить на чемпионате Европы. До этого оставалось сделать всего два шага – сначала в плей-офф победить команду Грузии, а затем в финале сыграть с Северной Македонией.

Казалось бы, дело не такое уж и сверхъестественное, благо, что побеждать надо было не Германию и не Англию. Даже коронавирус оказался на стороне белорусов, потому что из-за сложной эпидемиологической обстановки матч в Тбилиси на 55-тысячном стадионе имени Бориса Пайчадзе (а все билеты были уже проданы) проходил при пустых трибунах, так что фактор домашней для соперников арены был практически нейтрализован.

Но, как уже известно, сборная Беларуси благополучно пролетела, проиграв 0:1. Спорт есть спорт. Но меня удивило другое: это же как нужно постараться, чтобы команда, в которую собраны лучшие футболисты страны и которая целенаправленно готовилась к такому ответственному матчу, более чем за 90 минут игры ни разу (!) не попала даже в створ ворот?! Полные нули!

К такому результату, наверное, непросто прийти, здесь нужны определенные наработки всего тренерского штаба. Это как в фильме «Формула любви»: «Степан, у гостя карета сломалась…» – «Вижу, барин, ось полетела, да спицы менять надо». – «Починить сможешь?» – «За день сделаю». – «А за десять дней?» – «Ну, барин, тогда тут одному не справиться. Помощник нужен. Хомо сапиенс!»

Есть все-таки у нас в стране, в сборной и в федерации, таланты и «хомо сапиенсы»! Хотя, возможно, дело в другом? Может, со стороны футболистов это была такая тихая итальянская забастовка, когда работники вроде и находятся на рабочем месте, но саботируют процесс?

Все же знают, что происходило до игры. Например, белорусский игрок ЦСКА Илья Шкурин был включен в расширенный список главного тренера сборной Беларуси Михаила Мархеля, но форвард отказался выступать за национальную команду, «пока действует режим Лукашенко».

Высказал свою гражданскую позицию Стас Драгун – его тоже не взяли на матч с грузинами. Официальная причина отказа – футболист переболел коронавирусом.

Игрок БАТЭ Антон Сарока вообще был задержан 11 августа и отсидел 7 суток в Жодинском изоляторе, после чего многие футболисты борисовской и других команд выступили в его поддержку. Только федерация молчала, она, которая «вне политики», в это время на своей странице во «ВКонтакте» публиковала ролик с выступлением Лукашенко и хештегом *#БеларусьОднаНеОтдадим*.

В сентябре был вынужден уйти из штаба сборной и массажист команды Вадим Булат – после интервью, в котором специалист высказал мнение о ситуации в стране, руководство федерации решило отказаться от его услуг.

*«Для меня в данный момент, когда определилась со своей позицией федерация футбола, когда определился главный тренер (не говоря уже о тех, кто стоит выше), стало невозможным оставаться в списке этих людей,* – рассказал Вадим Булат «Трибуне». – *Я не хочу становиться их пособником и участвовать в любых их делах и начинаниях. Я делаю то, что говорят мне сердце и душа, и не могу смириться с тем, что происходит в стране.*

*В последнее время задаю себе один вопрос и хочу задать его ребятам из команды. Как смотреть в глаза людям, которые пострадали в последнее время? Все-таки матчи национальной команды – именно для них. Как можно закрывать глаза на происходящее? Это же просто неуважение к людям. Для меня это недопустимо. Наверное, поэтому меня сейчас нет в сборной. Но хочется сказать ребятам, что нужно слушать и слышать себя. Каждому необходимо начать слышать себя, уважать свое мнение и не бояться его озвучивать. Если этого не будет, то и уважать вас никто не будет»*.

Бывший массажист сборной попал прямо в точку! Если и раньше сборная Беларуси по футболу не пользовалась большим авторитетом у болельщиков, то сейчас он и вовсе упал ниже плинтуса, и, уверен, многие белорусы радовались победе Грузии гораздо больше, чем поражению вроде бы родной команды.

«*Так и надо вам, тряпки, предавшие свой народ*! – пишут сегодня болельщики на форумах. – *Никогда так не радовался победам белорусов, как этому поражению!*»

Одним словом, свою минуту славы белорусские футболисты и за игру, и за свою позицию уже пережили. Если, конечно, это не была итальянская забастовка, когда игроки сознательно «слили» игру.

Теперь слово за руководством федерации. Посмотрим, держится ли «посиневшими пальцами» за свое кресло председатель федерации Владимир Базанов. После такого позора и провала он первым должен написать заявление об отставке.

СИТУАЦИЯ

# «Так будет лучше для всех…»

*Известный белорусский баскетболист Егор Мещеряков покинул пост вице-председателя Белорусской федерации баскетбола, написав заявление на увольнение по собственному желанию.*



*«Я сделал это сам, без какого-либо давления. Поблагодарил всех за плодотворную работу и хорошие эмоции. Причины очевидны – так будет лучше для всех»,* – отметил Мещеряков.

Ранее Егор Мещеряков активно высказывался о последних событиях, был одним из подписантов письма против насилия и беззакония в стране.

*«Уверен, что после событий августа наше гражданское общество белорусов никто не будет называть «памяркоўным»,* – рассказывал **Егор Мещеряков.** – *Белорусы показали, что мы другие. Мы умеем чувствовать боль пострадавших от насилия, боль тех, кто подвергается психологическому давлению, боль тех, кто за решеткой. В наше время слово «солидарность» приобретает другой, более глубокий, смысл. Но наше гражданское общество все еще недооценивают. Никак не могут поверить, что все, что мы делаем, делаем по зову сердца и совести. Что мы не слушаем каких-то воображаемых кукловодов с Запада или Востока.*

*Всю свою жизнь я старался максимально помогать развитию белорусского баскетбола. И не только на площадке, где я отдал 20 лет нашей сборной, а также и за ее пределами. В 2009 году я основал клуб БКМ для юных баскетболистов, проводил многочисленные мастер-классы и летние лагеря, а также за мои личные средства были отремонтированы два школьных зала в городе Минске. А сейчас из-за моей гражданской позиции из меня начинают лепить врага баскетбола. Совсем недавно главный тренер одного из клубов в лицо мне заявил, что игроки не могут нормально тренироваться из-за меня, что я представляю собой угрозу для развития баскетбола в стране.*

*Видим, что сейчас в стране происходит подмена понятий. Нам пытаются внушить, что черное – это белое, хотя всем очевидно, что чернее уже не бывает. Но белорусов не обманешь. Белорусы уже де-факто победили».*

Напомним, что Федерацию баскетбола Беларуси возглавляет **Максим Рыженков** – первый заместитель главы Администрации президента.

**Сергей ЗАБЛОЦКИЙ.**

АЎКЦЫЁН

# Касцюм Аляксандры Герасімені купілі за 4525 долараў

*Грошы пойдуць пацярпелым за сваю грамадзянскую пазіцыю спартсменам.*

Наша газета паведамляла, што на продаж вядомая беларуская плыўчыха Аляксандра Герасіменя выставіла спартыўны касцюм, у якім яна атрымлівала медаль падчас цырымоніі ўзнагароджвання на Алімпіядзе-2016 у Рыа, і ў дадатак – фотакартку з аўтографам.

Аўкцыён стартаваў 27 верасня і працягваўся да 7 кастрычніка. Першапачатковая цана касцюма была 119 долараў, але ў выніку яго купілі за 4525 "зялёных".

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



КРЫЖАВАНКА

# Маці і дзіця – ружа і цюльпан

*Прысвячаецца Дню маці, які адзначаецца 14 кастрычніка, на Пакровы*



**Па гарызанталі:** 1."Ой, …, далібог, // Мяне любяць чатырох" (з прыпеўкі). 4.Ядавітае выпарэнне (устар.). 6. … і дзіця – ружа і цюльпан (прык.). 9.Калі … смяецца над кошкай, значыць, паблізу ёсць нара (прык.). 10.Раздзел батанікі, які вывучае грыбы. 14.Белы вапняк. 15.Зварот да замужняй жанчыны ў Англіі, Амерыцы. 16.Восеньская … мацней кусае (прык.). 17.Пастаўленая задача. 20.Жаночае імя; у перакладзе з грэчаскай мовы – "цёмная". 21.Пройгрыш у шахматнай гульні. 26.Частка горада. 28.Мацунак, трываласць. 29.Краіна ў Афрыцы. 30."Мілая …, я цябе люблю!" – з верша Л.Пранчака "Мілая матуля". 31."Ты, свякроўка, мая …, // Калышы маё дзіцятачка. // – А чорт яго накалышацца –// У мяне сваё ў калысачцы" (прыпеўка).

**Па вертыкалі:** 1.Літаратурны твор. 2.Праснакі, якія, паводле яўрэйскага абраду, выпякаліся да Песаха ("яўрэйскага Вялікадня"). 3.Слова маці і таплёнае … аднолькава мяккія (прык.). 5.Дом без жанчыны што … без вады (прык.). 7.Згода. 8.Імгненне. 11.Чым сонца яснее, тым … мутнее (прык.). 12.Сплаў медзі з некелем. 13. Мясцовасць паміж рэк. 18."Чаму ж тады не прыйшоў, // Як я цябе прасіла ? // Татка свінку закалоў, // … вушкі зварыла" (прыпеўка). 19.Жанчына, якая прытрымліваецца моды. 22.Старажытнае паданне. 23.У харошым адзенні і … прыгожая (прык.). 24."Збірала мама зёлкі, // Як пчолы з зёлак …" – з верша Ст.Валодзькі "Маміны зёлкі". 25.Дабрата бацькі, як гара, высокая, любоў маці, як …, глыбокая (прык.). 27.Спартыўнае спаборніцтва.

**P.S.** *Усе словы ў крыжаванцы пачынаюцца з літары "М".*

## Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Мамачка. 4.Міязмы. 6.Маці. 9.Мыш. 10.Мікалогія. 14.Мел. 15.Місіс. 16.Муха. 17.Мэта. 20.Маўра. 21.Мат. 26.Мікрараён. 28.Моц. 29.Малі. 30.Матуля. 31.Матачка.

**Па вертыкалі:** 1.Мемуары. 2.Маца. 3.Масла. 5.Млын. 7.Мір. 8.Міг. 11.Месяц. 12.Мельхіёр. 13.Міжрэчча. 18.Мамка. 19.Модніца. 22.Міф. 23. Малпа. 24.Мёд. 25.Мора. 27.Матч.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**
**г.Дзяржынск.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# «Мы сваіх у бядзе не кідаем…»

*Ці магчымы з боку МАК санкцыі да Нацыянальнага алімпійскага камітэта за пераслед спартсменаў па палітычных матывах? Якая дапамога аказваецца тым, хто трапіў пад рэпрэсіі? Што будзе з гандбольным клубам "Віцязь", які выкінулі з чэмпіянату за акцыю ў падтрымку баскетбалісткі Алены Леўчанка? На гэтыя пытанні "Народнай Волі" адказвае каардынатар Беларускага фонду спартыўнай салідарнасці* ***Аляксандр АПЕЙКІН****.*

– Мы нарэшце дагрукаліся да Міжнароднага алімпійскага камітэта, і зараз ён расследуе заяву беларускіх спартсменаў, якія на сабе адчулі ціск з-за палітычных поглядаў, – *кажа Аляксандр*. – Прадставілі ў МАК каля 30 фактаў, калі прадстаўнікі спартыўнай грамадскасці пацярпелі за сваю пазіцыю. Ёсць нейкія спрэчныя моманты, але маем і сітуацыі, калі чалавека на 100 працэнтаў выганялі з каманды за тое, што ён недзе выказаў сваё меркаванне.

**– Як Міжнародны алімпійскі камітэт будзе праводзіць расследаванне?**

– Усе факты былі пададзены на мінулым тыдні, і, калі шчыра, мяне здзівіла вельмі хуткая рэакцыя з боку МАК. Гэта сведчанне вялікай цікавасці прэстыжнай арганізацыі да праблемы. Трэба разумець, што ў Міжнародны алімпійскі камітэт паступае шмат просьбай і прапаноў, але гэта бюракратычная структура, таму не ўсе яны адразу разглядаюцца.



Хуткая рэакцыя МАК на "беларускую праблему" паказвае, што ў гэтым накірунку нейкія захады ўсё-такі будуць. І мы, натуральна, са свайго боку будзем пільна сачыць за тым, каб расследаванне не стала фармальнасцю, а прайшло як мае быць.

У тых фактах, што мы даслалі, ёсць канкрэтныя парушэнні Алімпійскай хартыі, калі людзей звальнялі за іх грамадзянскую пазіцыю. Таму не выключаю, што МАК можа ўжыць санкцыі да беларускага Нацыянальнага алімпійскага камітэта.

**– Пра якія санкцыі ідзе гаворка?**

– Прыпыненне сяброўства ў Міжнародным алімпійскім камітэце – вельмі радыкальная санкцыя, не думаю, што да гэтага дойдзе. Але можа быць прыпынена фінансаванне НАК Беларусі, а беларускім алімпійцам забароняць выступаць на Алімпіядзе пад дзяржаўным сцягам.

Такія санкцыі, можа быць, і сімвалічныя, але галоўнае, што МАК прызнае: у Беларусі насамрэч ёсць праблема пераследу спартсменаў і спецыялістаў за іх погляды.

**– Пры абмеркаванні гэтай тэмы на форумах многія наогул не вераць, што Міжнародны алімпійскі камітэт будзе прымаць нейкія меры ўздзеяння на НАК Беларусі…**

– У людзей, якія пішуць такое на форумах, не так шмат досведу супрацоўніцтва з МАК. Сёння з Беларускім фондам спартыўнай салідарнасці працуюць буйнейшыя ў свеце спартыўныя арганізацыі – Міжнародная супольнасць спартсменаў *Global* Athlete, World Players Association, *EU* Athletes, нямецкі спартыўны прафсаюз Athleten Deutschland.

Гэтыя арганізацыі даволі сур'ёзна ўключыліся ў абарону беларускіх спартсменаў, а да іх меркавання прыслухоўваецца і той жа МАК. Акрамя таго, у нас добрыя стасункі з найбуйнейшымі міжнароднымі выданнямі, якія таксама будуць сачыць за гэтай праблемай.

Дадам, што ёсць таксама дамоўленасці з прэзідэнтамі нацыянальных алімпійскіх камітэтаў шэрагу еўрапейскіх краін, і яны таксама гатовы падтрымаць Беларусь і давесці расследаванне, якое будзе праводзіць Міжнародны алімпійскі камітэт, да нейкага выніку.

**– Колькі грошай сабрана на дапамогу беларускім спартсменам, якія пацярпелі ад дзеянняў улад?**

– Не магу назваць дакладную лічбу, бо грошы збіраюцца на базе BYSOL – гэта агульны фонд дапамогі пацярпелым беларусам. І спартсмены не вылучаюцца ў нейкую асобную катэгорыю. Усе мы найперш грамадзяне Беларусі.

Адзінае, што вядома, на гэты момант аказана дапамога 15 прадстаўнікам спартыўнай грамадскасці. Таксама мы зараз шукаем магчымасці, каб звольненыя беларускія спартсмены мелі магчымасць працягваць сваю спартыўную кар'еру за мяжой.

**– Размова ідзе пра змену грамадзянства?**

– Не, толькі пра тое, каб мець магчымасць трэніравацца. І ўжо літаральна праз некалькі дзён з'явяцца першыя кейсы, спартсменам будуць прапаноўвацца варыянты таго, каб за мяжой можна было паўнавартасна праводзіць трэніроўкі. Будзе фінансавая падтрымка з боку арганізацый тых краін, якія прымуць людзей.

А пакуль што ўсе, хто да нас звяртаецца, у той ці іншай ступені таксама атрымліваюць дапамогу.

**– Чэмпіёнка свету па фрыстайле Аляксандра Раманоўская, якую звольнілі за "прагулы", звярталася?**

– Пакуль не звярталася, але мы ўжо размаўлялі на гэты конт з Сашай, і ў бліжэйшы час яна накіруе нам заяўку. У нас ёсць некаторыя зафіксаваныя працэдуры, якіх трэба прытрымлівацца, але дапаможам фрыстайлістцы абавязкова. Мы сваіх у бядзе не кідаем.

**– Вы з'яўляецеся заснавальнікам гандбольнага клуба "Віцязь", які не так даўно правёў акцыю салідарнасці з арыштаванай баскетбалісткай Аленай Леўчанка – каманда праігнаравала матч першынства Беларусі. У выніку клуб не можа далей удзельнічаць у чэмпіянаце. Што будзе з камандай?**

– Па-першае, мы хочам, каб еўрапейская гандбольная грамадскасць даведалася пра падрабязнасці гэтай справы, бо ёсць некаторыя моманты, на якія варта звярнуць увагу.

Акцыя "Віцязя" – гэта быў пратэст супраць палітычнага ціску на спартсменаў. Мы сваю пазіцыю ніколі не хавалі і разумеем, што яе падзяляюць многія. Нават тыя, хто па розных абставінах маўчыць. Гандбол – гэта такі від спорту, які практычна цалкам трымаецца на бюджэтных грашах. Былі толькі два прыватныя клубы – брэсцкі БГК імя Мяшкова і "Віцязь".

Таму большасць ігракоў па сутнасці бюджэтнікі, і, натуральна, іх заробак залежыць не толькі ад выступлення на пляцоўцы, але і ад лаяльнасці да ўлады.

Хаця, напрыклад, мне складана зразумець, у якой ступені залежнасці трэба быць чалавеку, каб маўчаць у сітуацыі, калі трэба крычаць аб тых жахах і гвалце, што прадэманстравала ўлада!

Але "Віцязь" не мог не падтрымаць Лену Леўчанка, бо яна для нас з'яўляецца пэўным сімвалам барацьбы за свае правы, за справядлівасць.

Так, каманда зараз не зможа выступаць у чэмпіянаце, але з клубам усё будзе добра. Як толькі сітуацыя ў краіне зменіцца, "Віцязь" будзе адноўлены, і гэта будзе сапраўды клуб-герой.

**Алесь СІВЫ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).
Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Подписано в печать 12.10.2020 в 17.00. Объем 4 печ. листа. Тираж 25000 экз. Заказ №2728.